№ 2-3
МАЙ
1935 г.

# Метадычны лісток

## У дапамогу школе

= Выходзіць 2 разы ў месяц. =

ЗМЕСТ:

1. Гістарычная прамова тав. Сталіна і задачы школы.
2. **А. Г. Абрамаў**—Арганізуем летні адпачынак совецкай дзетвары.
3. **В. П. Астапаў**—Палітвыхаваўчая работа ў піонерлагерах і на дзіцячых пляцоўках
4. **М. Н. Семёнава**—Мастацкая работа на летняй пляцоўцы.
5. **Л. Н. Нікана**ў—Летнія работы па батаніцы.
6. **А. Ф. Бенкен**—Летнія заняткі па заалогіі.
7. **Л. Н. Нікана**ў — Феналагічныя назіранні.
8. Планы летніх заданняў па прыродазнаўству—пад рэдакцыяй Д. А. Судоўскага.
9. **Т. І. Агафонаў**—Аб некаторых пытаннях падрыхтоўкі да новага навучальнага года.



## ПРЫСВЕЧАН ЛЕТНЯЙ РАБОЦЕ З ДЗЕЦЬМІ.

ВЫДАННЕ ВІЦЕБСКАГА ПЕДАГАГІЧНАГА ІНСТЫТУТА імя С. М. КІРАВА.



Гарліт № 915. Друк. „Комінтэрн". Зак. № 2613—600 экз.

# Гістарычная прамова тав. Сталіна і задачы школы.

Прамова таварыша Сталіна на выпуску акадэмікаў Чырвонай Арміі прадстаўляе сабою дакумент выключнай важнасці.

Уся наша краіна ў сучасны момант жыве гэтай прамовай.

„Кадры вырашаюць усё"—вось велізарнейшы лозунг правадыра, лозунг, які робіць эпоху. „З усіх каштоўных капіталаў, маючыхся у свеце, самым каштоўным і самым рашаючым капіталам з'яўляюцца людзі, кадры". Асабліва каштоўны людзі, будуючыя соцыялізм.

Вось чаму так цёпла, так задушэўна гучаць словы правадыра: „навучыцца цаніць людзей, цаніць кадры, цаніць кожнага работніка, здольнага прынесці карысць нашай агульнай справе".

Вось чаму т. Сталін заклікае выхоўваць кадры беражна, заботліва, вырашчваць іх так, як вырашчвае садоўнік аблюбаванае ім дрэва.

Быў перыяд, калі мы прымушаны былі ўсю сваю ўвагу і усе свае сілы кінуць на аснашчэнне нашай краіны высокай тэхнікай. Трэба было краіну з адсталай тэхнічна, поўжабрацкай, разбуранай ператварыць ў перадавую краіну магутнай індустрыі. Другога шляху да перамогі не было.

Рабочы клас свядома ішоў на афяры, эканоміў „на харчаванні, і на школах, і на мануфактуры, каб накапіць неабходныя сродкі для стварэння індустрыі", каб стварыць „магутную і першакласную прамысловасць, магутную і механізаваную сельскую гаспадарку, транспарт, які разгортваецца і ідзе ўгору, арганізаваную і бліскуча аснашчоную Чырвоную Армію".

„Мы зжылі ужо у асноўным перыяд голаду ў вобласці тэхнікі".

Але мы ўступілі, як гаворыць т. Сталін, у перыяд „голаду ў вобласці людзей, у вобласці кадраў, у вобласці работнікаў, якія умеюць асядлаць тэхніку і рушыць яе ўперад".

Нам патрэбны кадры, здольныя „скарыстаць гэтую тэхніку па ўсіх правілах майстэрства", „скарыстаць яе да дна". Скарыстаць яе так, каб „краіна наша атрымала б эфекту ў тры і ў чатыры разы больш, чым яна мае цяпер".

Людзі, авалодаўшыя тэхнікай, вырашаюць усё.

„Чалавек—гэта гучыць горда",—сказаў Горкі. Але гэтыя словы могуць быць прымянімы толькі да Совецкага Саюза.

Ва ўмовах капіталізма лічнасць чалавека прыгнятаецца, чалавек калечыцца фізічна і інтэлектуальна. Рабочы клас—самая каштоўная частка чалавечага грамадства—асуджан на выміранне, выраджэнне і абсалютнае абнішчэнне.

У Совецкім жа Саюзе адчыняюцца шырокія прасторы для ўсямернага развіцця лічнасці і росквіту яе творчых сіл.

Сапраўды, толькі у нас, у краіне будуючагася соцыялізма, „Чалавек—гэта гучыць горда".

І толькі сапраўдны правадыр народу т. Сталін мог так высока ўзняць чалавека і ва ўсю шыр паставіць пытанне аб любоўна-заботлівых да яго адносінах.

Для нас, работнікаў школы, прамова т. Сталіна павінна стаць стрыжнем усей работы.

Прызыў т. Сталіна да заботлівага вырашчвання і выхавання кадраў мае выключнае значэнне для школы.

А між тым, у школе мы вельмі часта сустракаем бяздушныя адносіны да рабёнка, падчас даводзячыя яго да адчаяння.

Адзін з такіх выпадкаў быў нядаўна апісан у „ЗКП" ад 16 сакавіка 1935 г. Толю-піонера настаўнік незаслужана прагнаў са школы і прапанаваў без бацькоў не з'яўляцца назад. Ісці дамоў Толя баяўся. Бацька часта біў яго. Вярнуцца ў школу без бацькоў было нельга. І хлопчык рашыў павесіцца. Яго спаслі у апошнюю хвіліну. Калі-ж настаўнік аб гэтым даведаўся, то зменшыў

Толе адзнаку па дысцыпліне. Ці можна прыдумаць яшчэ больш бяздушныя, мяжуючыя з тупаум'ем адносіны да чалавечай лічнасці?

А гэта ж толькі найбольш яскравы факт. Як часта мы ругаем дзяцей за нявыкананы урок, не ўнікаем у прычыны, якія часта ад іх не залежаць, якія абумоўлены бытавымі ўмовамі, хваробаю і т. д.

Не заўсёды мы бываем чулымі да рабёнка. Мала мы ведаем душу рабёнка, не ўмеем распалажыць яго да сябе. Вельмі часта „заганяем“ яго ў сябе.

У нашай справе — справе выхавання моладзі — педагагічны такт, паашчрэнне, своечасовая сяброўская дапамога павінны адыграць вялікую ролю. Педагог павінен ведаць індывідуальныя асаблівасці вучняў, каб мець мажлівасць вызначыць у кожным асобным выпадку лінію сваіх паводзін.

„Выхаванне совецкай моладзі—вялікае мастацтва“,— піша цэнтральны орган нашай партыі „Правда“ і „выхаванне нашай моладзі — важнейная палітычная задача“.

Пытанне ўпіраецца ў кадры. Нам за раз патрэбны новыя і новыя дзесяткі тысяч настаўнікаў, якія маглі-б выхаваць пакаленне, здольнае будаваць комунізм.

І ў гэтых адносінах прамова т. Сталіна дае нам кіруючыя ўказанні.

Мы павінны цярпліва, настойліва вырашчваць на мясцах новыя настаўніцкія кадры, усямерна падымаць кваліфікацыю ўсей настаўніцкай масы.

Але тут маецца яшчэ вельмі многа фармалізму, бюракратызму. Нічым не апраўдваемымі, недапусцімымі з'яўляюцца адносіны паасобных загадчыкаў РайАНА да пытання павышэння кваліфікацыі настаўніцтва.

Настаўнікам не ствараюцца належныя ўмовы для нармальнай работы над сабой. Завочнікам-настаўнікам часта не даецца мажлівасці наведваць кансультацыйныя пункты, не прадастаўляюцца водпускі на канферэнцыі; завочнікі не разгружаюцца ад залішняй грамадскай нагрузкі.

Няўважлівыя, а часам і безабразныя адносіны да настаўніцтва з боку работнікаў АНА, сельсовета, грамадскіх арганізацый (затрымка зарплаты, дрэнныя жыллёвыя ўмовы і т. д.), адсутнасць падтрымкі і дапамогі педагагічнаму маладняку — усё гэта нажаль яшчэ мае месца; усе гэтыя велізарныя недахопы неабходна ў бліжэйшы час ліквідаваць.

Канкрэтная дапамога нашаму маладняку з боку старэйшых таварышоў, падбадрванне пры ўдачах, своечасовае вылучэнне найбольш здольных — павінна садзейнічаць стварэнню высокаякасных работнікаў нашай школы.

У сваёй прамове т. Сталін вучыць нас па-ленінску выхоўваць нашу моладзь, каваць кадры, будаваць соцыялізм.

Будзем-жа дастойнымі вучнямі вялікага і геніяльнага настаўніка.

Удзесяцярым нашы сілы і энергію на вырашэнне задач, пастаўленых правадыром.

Пад сцягам Леніна-Сталіна пойдзем да новых перамог.

## Арганізуем летні адпачынак совецкай дзетвары

**А. Г. Абрамаў**

Канчаецца вучэбны год. Мільёны дзяцей пойдуць на летнія канікулы. Трэба адпачыць, набрацца новых сіл з тым, каб з новага вучэбнага года даць яшчэ больш высокія паказальнікі вучобы.

Адпачынак дзяцей трэба арганізаваць. Адпачынкам не можа лічыцца поўнае бяздзелле, неарганізаванае правядзенне часу. Дзецям патрабуецца разумны адпачынак, разумнае чаргаванне працы і гульняў. Летні адпачынак дзяцей павінен быць намі асабліва добра арганізаван яшчэ і таму, што ў працілеглым выпадку яго „арганізуюць“ класава-варожыя элементы. Мы не маем права пакідаць дзяцей на тры летніх месяцы без нашага комуністычнага ўздзеяння і ўплывання.

Трэба імкнуцца да таго, каб усе дзеці былі арганізаваны на летні перыяд. У гэтых адносінах павінен быць скарыстаны вопыт Кіева і Харкава, дзе сіламі жактаў і рабочай грамадскасці былі створаны сотні пляцовак для гульняў, дзе для дзяцей былі прадастаўлены гарадскія сады, паркі, скверы і бульвары.

Ва ўмовах нашага раёна неабходнай для гэтай справы зялёнай плошчы больш чым дастаткова. Патрэбна толькі ініцыятыва школ, АНА, комсамола, бацькоўскага актыва, профсаюзаў, усей грамадскасці.

У гэтым годзе павінны быць арганізаваны дзіцячыя пляцоўкі і лагеры для калгасных рабят. Ва ўмовах калгаснай

вёскі, дзе рабяты не эксплаатуюцца ў гаспадарцы, яны маюць многа вольнага часу. Іх адпачынак неабходна культурна арганізаваць. Між тым, у вёсцы, нажаль, аб гэтым забываюць. У вёсцы, у калгасе, арганізаваць пляцоўку для гульняў, вопытны ўчастак, цвятнік куды лягчэй, чымся ў горадзе. У якасці кіраўнікоў могуць быць прыцягнуты піонерважатыя, комсамольцы, настаўнікі. Патрэбна толькі ініцыятыва ў тым, каб падшукаць памяшканне, знайсці сродкі і абсталяванне.

У план работы калгаснай дзіцячай пляцоўкі ўваходзяць усе мерапрыемствы па комуністычнаму выхаванню і аздаравіцельнай рабоце (грамадска-палітычнае выхаванне, мастацкае, ваенна-фізкультурнае, агра-тэхнічнае і т. д.)

Кіраўніку пляцоўкі або лагера неабходна прымяняць featurestaйныя арганізацыйныя формы летняй работы: гутарка ля кастра, экскурсія, калектыўная дэкламацыя, слуханне мастацкіх твораў, купанне, збіранне ягад і грыбоў і інш. Разам з тым неабходна арганізаваць і грамадскую дапамогу калгасу, жакту і т. д. Павінны быць дакладна прадуманы рабочыя планы для гурткоў юных тэхнікаў і натуралістаў.

Арганізуючы летнюю работу, трэба мець увесь час на ўвазе асноўную мэту — адпачынак. Разумны адпачынак мае вялікае выхаваўчае значэнне. 1-га верасня дзеці павінны прысці ў школу здаровымі, бадзёрымі, вясёлымі, з вялікім жаданнем вучыцца і працаваць.

## Палітвыхаваўчая работа ў піонерлагерах і на дзіцячых пляцоўках

**В. П. Астапаў.**
(студэнт Інстытута)

Вопыт арганізацыі летняй працы мінулых гадоў паказаў, што на палітычнае выхаванне дзяцей звярталася далёка недастаткова ўвагі. У гэтым годзе трэба прыняць усе меры к таму, каб грамадска-палітычнае выхаванне нашых рэбят было ўзнята на належную вышыню.

Палітвыхаванне школьнікаў і піонераў на пляцоўцы і ў лагеры павінна складацца ў асноўным з наступных момантаў: выхаванне любві к соцыялістычнай радзіме, інтэрнацыянальнае выхаванне, выхаванне пролетарскага калектывізма, прывіццё беражлівых адносін да соцыялістычнай маёмасці, антырэлігійнае выхаванне.

Пры правядзенні гэтай работы неабходна мець на ўвазе ўзросныя асаблівасці дзяцей, іх запатрабаванні. Трэба памятаць пастанову ЦК ВКП(б) аб перагрузцы школьнікаў і піонераў грамадска-палітычнымі заданнямі. Трэба не забываць таго, што ЦК партыі прапануе скарыстаць „жывы, вобразны і займацельны для дзяцей расказ аб найбольш яркіх грамадскіх здарэннях", замест недапусцімага шаблона і натасквання.

У мэтах выхавання совецкага патрыятызма рэкамендуецца арганізаваць для дзяцей ва ўзросце ад 8 да 12 год сустрэчы з удзельнікамі грамадзянскай вайны, з чырвонымі партызанамі, героямі соцбудаўніцтва і т. д. Гэтыя сустрэчы павінны быць добра падрыхтаваны, арганізаваны і аформлены партрэтамі, лозунгамі, геаграфічнымі картамі і інш. Вельмі пажадана, каб самі піонеры падрыхтавалі расказы і эпізоды з падпольнага жыцця комуністаў, з гераічных подвігаў партызанскіх атрадаў. На гэтых сходах піонеры павінны асазнаць тыя вялікія цяжкасці, з якімі прыходзілася змагацца ў барацьбе за совецкую ўладу, за шчаслівае жыццё дзяцей, за соцыялізм. У дзяцей павінна ўзнікнуць жаданне стаць комуністамі, быць аддана партыі і яе класу.

Далейшая праца павінна ісці па лініі вывучэння біяграфій нашых правадыроў тт. Леніна, Сталіна Варашылава, Молатава, Калініна, Кагановіча, Кірава і інш., вывучэння жыцця герояў Совецкага Саюза, якія бясстрашна змагаліся за выкананне задач, пастаўленых партыяй.

Неабходна таксама пазнаёміць дзяцей з палітычным значэннем парашутызма і з дзейнасцю адважных парашутыстаў тт. Еўдакімава, Афанасьева, Камнёвай. Пажадана наведаць парашутную вышку ў час, калі будуць вытварацца прыжкі.

Апрача гэтага важаты павінен перыядычна знаёміць піонераў і з пытаннямі бягучай палітыкі.

Неабходна завязаць пісьмовую сувязь з піонерамі нацыянальных рэспублік і рэгулярна дзяліцца вопытам працы. Неабходна разгарнуць работу мясцовых арганізацый „Юныя друзья МОПР'а".

Кіраўнікі пляцовак і лагераў павінны асабліва прадумана арганізаваць і пад

рыхтаваць правядзенне рэволюцыйнага свята вызвалення Беларусі ад белапалякаў, дзень канстытуцыі СССР, антываенны дзень.

Дзеці любяць слухаць мастацкае чытанне. Піонерважаты павінен падабраць адпаведны літаратурны матэрыял і або сам чытаць і расказваць, або даручаць чытку больш здольным старэйшым піонерам. Пажадана чытаць і расказваць на тэму, як вясковыя піонеры ахоўваюць соцыялістычны ўраджай, як дзеці і дарослыя абараняюць соцыялістычную маёмасць, нават калі ім пагражае небяспека. Красачная пастаноўка такіх расказаў і інсцэніровак павінна даць вялікі палітычна-выхаваўчы эфект.

План работы з піонерамі і школьнікамі старэйшага ўзросту 12—15 год можна дапоўніць іншымі мерапрыемствамі, як напрыклад, арганізаваць выхад у ваенныя лагеры для азнаямлення з жыццём Чырвонай Арміі і яе героямі; зрабіць выхад у калгас, выпусціць там насценную газету, дапамагчы ў рабоце ячэйкі МОПР і т. д. Атрад можа ўзяцца за вывучэнне свайго раёна, фабрык, заводаў, прыгарадных багаццяў. Для гэтага праводзіцца выхад за горад на цэлы дзень з геаграфічнай картай, компасам і даследуецца прыгарадны раён. Усю правадзімую работу трэба абавязкова ўзгадняць з дзецьмі, улічваць іх жаданні і запросы.

Месца для правядзення збораў выбіраецца ў гарадскім садзе, на беразе рэчкі, у лесе, на лужайцы, на добра абсталяванай пляцоўцы і т. д.

Намечаны план работы з'яўляецца, зразумела, толькі прыкладным. Гэты прыкладны план неабходна ў кожным асобным выпадку канкрэтызаваць і прыстасаваць да мясцовых умоў.

## Мастацкая работа на летняй пляцоўцы.

**М. Н. Семёнава**

Летняя работа са школьнікамі з'яўляецца адным з важнейшых мерапрыемстваў у справе падрыхтоўкі да новага вучэбнага года: поспех вучобы будзе залежыць ад таго, якім вернецца ў школу дзіцячы калектыў пасля канікул.

Школа і піонерарганізацыя павінны прыняць усе захады к таму, каб на працягу летніх канікул забяспечыць дзецям здаровыя і культурныя ўмовы адпачынку; для гэтага неабходна скарыстаць усе віды культмасавай і фізкультурна-аздаравіцельнай работы. Асабліваю ўвагу трэба звярнуць на арганізацыю летняй пляцоўкі. Гэта—тып часовай установы, якая ставіць сваей задачай скарыстаць летні час школьнікаў для выхаваўчай і аздаравіцельнай работы.

Работа на летняй пляцоўцы павінна быць цікавай, яркай; тады школьнікі з захапленнем будуць наведваць сваю пляцоўку; тады пляцоўка прывучыць іх да арганізаванага правядзення часу.

Сярод розных відаў работы на пляцоўцы мастацкая работа павінна заняць віднае месца. Мастацкая работа ў нас з'яўляецца адным з магутных сродкаў комуністычнага выхавання новых людзей, захопленых энтузіязмам соцыялістычнага будаўніцтва, выхавання людзей з калектывістычнымі навыкамі і з творчай ініцыятывай. Пагэтаму асаблівая ўвага павінна быць звернута на эмацыянальную афарбоўку ўсіх відаў мастацкай работы.

Галоўнае месца займе музычная работа ў трох яе асноўных відах: харавыя спевы, гульні пад музыку і танцы, ігра на розных інструментах. Песня—нязменны спадарожнік піонера летам: і праца і адпачынак суправаджаюцца песняй. Сучасныя рэволюцыйныя песні, старыя падпольныя песні, песні народаў СССР—вось музычны матэрыял для пляцоўкі. Харавыя песні лёгка арганізаваць пры дапамозе музычнага актыва з рабят (салісты, запявалы). Пачынаць харавую работу трэба з тых песень, якія спяваліся ў школе; аднак, доўга на іх спыняцца не належыць. Рэпертуар песень павінен увесь час папаўняцца. Мы рэкамендуем кіраўнікам пляцоўкі скарыстаць нашы радыёвяшчальныя станцыі, якія ў вызначаныя дні і гадзіны разучваюць з радыёслухачамі новыя песні. Мы рэкамендуем таксама калектыўнае слуханне спецыяльных перадач для школьнікаў і піонераў усіх узростаў.

Дзеці на пляцоўцы павінны быць разбіты на 2 групы: 9-12 год і 12-15 год.

Для ўзросту 9-12 год можна рэкамендаваць наступныя песні: „Песня аб Варашылаве“, муз. Сабо; „Песня аб піонеру Абрасімаве“ муз. Кабалеўскага; „Песня гневу“, муз. Сабо; „Паравоз“ муз. Кабалеўскага; „Песня аб Паўліку Марозаве“ і інш.

Для ўзросту 12-15 год—„Мельнік“

муз. Шуберта; „Ударны труд" муз. Шэхтэр; „Жалезнымі рэзервамі" муз. Шэхтэр, „Буйным прыбоем"—польская рэволюцыйная песня—муз. Кабалеўскага; „Труд трубі" муз. Васільева-Буглая і рад іншых.

Мы лічым неабходным звярнуць увагу кіраўнікоў пляцовак на выработку правільных навыкаў спеваў. Неабходна перш за усё берагчы галасавы апарат. У большасці нашых дзяцей маецца тэндэнцыя крычаць у час спеваў; трэба з гэтым змагацца. Неабходна сачыць і за правільным дыханнем ў час спеваў — браць удыханне пры перамене фраз і ні ў якім выпадку не дыхаць у сярэдзіне слова. Неабходна строга захоўваць рытм песні і не скажаць мелодыі. Трэба сачыць і за выпрацоўкай правільнай дыкцыі. Ні ў якім выпадку нельга спяваць у час шпаркага руху, ў вялікую жару, пры пад'ёме на гару, а таксама калі рабяты чым-небудзь усхваляваны, каб збегнуць вялікага напруджання галасавога і дыхальнага апарата.

На прыкладзе песні аб Варашылаве прыводзім парадак разучвання новай песні.

1. Кіраўнік выконвае песню аб Варашылаве на раялі, на скрыпцы, або на баяне і пяе; дзеці слухаюць.

2. Разбірае змест і характар песні, расказвае біяграфію т. Варашылава і ў другі раз выконвае песню.

3. Дзеці запісваюць першы куплет, пасля чаго прыступаюць да завучвання мелодыі.

4. Запісваецца другі куплет і т. д.

Не менш важан і рух, які суправаджаецца спевамі або музыкай: маршыроўка, пляскі, рытмічныя гульні, інсцэніроўкі песень. Прыводзім прыклад рытмічнай ігры „Памяць", выконваемай пад музыку.

„Дзеці дзеляцца на 3 групы. Кожная група строіцца ў затылак адзін другому і становіцца паралельна на адлегласці трох крокаў паміж асобнымі калонамі. Кожнай групе даецца вызначаны рух, які яна праводзіць пад вызначаную ей мелодыю. Прыкладна: першая —пад песню аб героях (муз. Шэхтэр) утварае 4 рухі — рукі ўперад, убок, уверх, уніз. Другая група рухаецца пад песню „Маленькі барабаншчык" муз. Давыдэнка; кожны з гэтых дзяцей кладзе левую руку на плечы стаячаму ўперадзе таварышу, а правую адводзіць у бок. 3-я група пад песню „Ураджайная плясавая" (муз. Васільева-Буглая) робіць паварот вакол сябе плясавым крокам. Мелодыя бесперапынна мяняецца, кожная брыгада, слухаючы ўважліва, павінна на данную ей мелодыю рабіць свае рухі. Гульні праводзяцца на зараней вызначаны час. Выйграе група рабят, якая зробіць менш памылак". (з зборніка „15 лет Октябрьской революции" 1932 г.)

Такія гульні арганізуюць рабят, актывізуюць іх і згуртоўваюць ў дружны калектыў.

У справе мастацкага выхавання важнае значэнне мае і драматызацыя, якая па сутнасці звязана з прапрацоўкай літаратурнага твора. Кіраўнік зараней выбірае тыя вершы, апавяданні, басні, якія ён будзе прапрацоўваць з дзецьмі абодвух узростаў. Спачатку даюцца неабходныя тлумачэнні да выбранага твора (характар апісваемай эпохі, асоба аўтара, асноўная ідэя твора і т. д.), а потым кіраўнік або сам зачытвае твор, або даручае чытаць каму-небудзь з рабят.

Рабяты вельмі любяць слухаць расказванне і асабліва выступаць перад дзіцячай аўдыторыяй. Прапрацаваны літаратурны матэрыял—апавяданні, закончаныя ўрыўкі інсцэніруюцца; басні чытаюцца ў асобах. Можна інсцэніраваць і шарады. Шараду можна паставіць як ігру, як п'есу. Таму гульні-шарады павінны быць уключаны ў план работы пляцоўкі як са старшымі, так і з малодшымі рабятамі.

Прыводзім прыкладны парадак разыгрывання шарады. Дзеці дзеляцца на дзве групы. Адна разыгрывае шараду, другая ўгадвае, потым мяняюцца ролямі. Прысутныя рабяты паведамляюцца, што п'еса будзе без назвы і што глядач па складам і дзеянням сам павінен адгадаць назву. Тыя, хто адгадаюць першымі, атрымліваюць прэмію. Прыклады шарад можна знайсці ў журнале „Затейник" і у брашуры Шпет „Театральная работа" Профиздат 1933 г.

Гэтым не вычэрпваецца ўся мастацкая работа на летняй пляцоўцы; значнае месца павінна заняць і ізоработа (маляванне па прадстаўленні, з натуры, лепка з гліны і пап'е-машэ, утварэнне макетаў, мастацкае афармленне пляцоўкі, дзіцячых шэствій і інш.)

## Летнія работы па батаніцы

Праф. Л. Н. Нікanaў

Наступае лета—час, калі лепш за ўсё можна вывучаць прыроду, калі можна атрымаць найбольш яркае аб ёй уяўленне, калі сама прырода кліча дзяцей ў поле, ў лес, на рэчку. Разам з гэтым наступаюць і канікулы, і дзеці школ раз'едуцца ў піонерлагеры, ў калгасы, а тыя, што астануцца у гарадах, пойдуць на дзіцячыя пляцоўкі.

Што ж трэба зрабіць, каб гэты дарагі час не прапаў дарэмна, каб абшчэнне дзяцей з прыродай не толькі аздаровіла іх фізічна, але і навучыла іх уважліва ўглядацца ў акаляючыя з'явішчы і разумець іх; а вядома,што толькі разумеючы з'явішчы прыроды можна перарабляць яе, можна скарыстоўваць яе багацці на патрэбу соцыялістычнага будаўніцтва.

Праграмы НКА удзяляюць летнім работам па прыродазнаўству асаблівую ўвагу. Праграма кожнага класа заканчваецца аддзелам: „заданне на лета". У праграмах дадзены і прыкладныя тэмы заданняў, адводзіцца і час для іх прапрацоўкі. І настаўнікі задаюць дзецям на лета розныя работы, аднак, як паказвае вопыт, рэзультаты такіх заданняў надзвычайна малыя: дзеці або зусім іх не выконваюць, або прывозяць ў школы малакаштоўны і дрэнна сабраны матэрыял.У чым-жа ляжыць прычына такога з'явішча? Галоўным чынам у тым, што ў школах не адводзіцца належнай увагі летнім работам.

У канцы года настаўнікі, занятыя ўчотам, у лепшым выпадку ў апошні дзень наспех паведамляюць дзяцей аб тэмах і прапануюць папрацаваць па ім. Гэтага вядома недастаткова: неабходна дакладна прапрацаваць заданні, канкрэтызаваць іх і даваць кожнаму вучню не больш аднаго-двух заданняў, як гэта і рэкамендуе праграма НКА. Дакладна прапрацаванае адно—многа два—заданні куды каштоўней, чымся многія, выкананыя нядбайна, без прапрацоўкі. Індывідуалізаваць заданні трэба ў залежнасці ад ухілу вучня, яго ўзросту і здольнасцяй і, асабліва, у залежнасці ад таго, дзе будзе праводзіць лета вучань. Адны заданні патрэбны дзецям у піонерлагерах, другія у калгасах, трэція для дзяцей, якія застаюцца ў горадзе, але і тут яшчэ розныя для тых, хто звязан з гародам ці садам ў сябе дома або будзе толькі ўдзельнічаць у работах і гульнях на школьнай пляцоўцы

Калі заданні будуць індывідуалізаваны і замацаваны за кожным вучнем, тады кожны што-небудзь і зробіць за лета, але і тут школа яшчэ павінна прысці на дапамогу сваім вучням матэрыяламі неабходнымі для выканання заданняў, напрыклад, забяспечыць паперай для сушкі раслін.

У праграмах, як ужо сказана, дадзены прыкладныя тэмы заданняў. Напрыклад, тэма —„Сабраць 10 раслін, апыляемых насякомымі"—павінна быць прапрацавана наступным чынам: спачатку дзеці наглядаюць, на якія расліны садзяцца насякомыя, што яны робяць на кветках, з якіх кветак і на якія пералятаюць, як пераносяць пылок, і толькі ўпэўніўшыся, што сапраўды даны від раслін апыляецца насякомымі, дзеці збіраюць і засушваюць расліны і пры гэтым у розных стадыях развіцця і раскрыцця яго кветкі; акрамя гэтага яны збіраюць і тых насякомых, якія з'яўляюцца апылітелямі данай расліны. Усе свае наглядданні дзеці запісваюць. Такую работу могуць прарабіць нават дзеці, жывучыя ўлетку ў горадзе.

Для дзяцей, якія жывуць ў калгасе, можна даць зусім другую работу, напрыклад, пустазелле, якое сустракаецца сярод пэўнай культуры, як: пустазелле жыта, аўсу, або ільну. Але зноў трэба не толькі збіраць, а і вызначаць пры гэтым ступень засмечанасці таго ці іншага поля, а для гэтага трэба сабраць і ўлічыць колькасць пустазелля і культурных раслін на пэўнай плошчы, прыкладна на 1 кв. м., а пры радковым засеве—ў радку на адлегласці 1,2 або 3 м. Падлічыўшы ўсе расліны, трэба вызначыць процантныя адносіны паміж пустазеллем і культурнымі раслінамі, а таксама між асобнымі відамі пустазелля; гэта будзе карысная работа для калгаса. У большасці выпадкаў вучні не змогуць азначыць віды пустазелля;а таму, падлічыўшы колькасць раслін таго ці іншага віда, вучань павінен засушыць па аднаму экземпляру кожнага віда, каб потым ў школе з дапамогай настаўніка азначыць сабраныя расліны. Каб мажліва было азначыць расліну па засушанаму экземпляру, яна павінна быць засушана акуратна са сцяблом, лісцямі, кветкамі, пладамі і з падземнымі органамі. Значыць, вучням прыдзецца прасачыць

за ростам сабранага імі пустазелля і ўзяць іх ў розных стадыях развіцця.

У піонерлагерах трэба адвесці асобныя ўчасткі зямлі, дзе дзеці маглі-б зрабіць пасевы і правесці рад назіранняў; напрыклад, высветліць уплыў угнаенняў, густаты і глыбіні пасеву палійкі, мульчырвання, або, зацяняючы расліны на пэўны час, прарабіць рад цікавых доследаў па фотаперыядызму.

Размеры артыкула не дае мажлівасці апісваць рознастайныя заданні, якія лёгка і з вялікім інтарэсам маглі-б прарабіць вучні розных класаў, таму ў канцы артыкула я прывяду толькі спіс магчымых заданняў па батаніцы. Каб выканаць гэтыя работы, трэба толькі кожнаму настаўніку глыбей прадумаць гэтыя заданні, а дзе можна, і самаму ўключыцца ў работу вучняў. Сабраныя-ж за лета дзецьмі экспанаты дадуць школе каштоўныя вучэбныя дапаможнікі, а праз некалькі год пры кожнай школе з гэтага батанічнага матэрыялу, а таксама з матэрыялу па заалогіі, мінералогіі і інш. утворыцца музей мясцовай прыроды.

**Спіс тэм для летніх работ**

1. Збіранне, засушванне характэрных раслін для розных асацыяцый (у колькасці 10-15 экз.): сухі сасновы бор, змешаны саснова-яловы лес, ліставы лес, сухадольны луг, вільготны луг, балота мохавае, балота асокавае, расліннасць возера, або ракі, расліннасць на пясках і т. д.

2. Збор і вызначэнне адносін паміж пустазеллем і культурнымі раслінамі: пустазелле жыта, пшаніцы, ячменю, аўсу, ільну, канаплі, гароху, пустазелле гародаў. Пустазелле на дварэ, на вуліцы і т. д.

Збіранне раслін і нагляданні над рознымі феналагічнымі з'явішчамі (па 10 раслін): расліны, апыляемыя ветрам, апыляемыя насякомымі, расліны віючыяся і лазаючыя, абаронныя прыстасаванні раслін супроць паядання жывёламі, супроць засухі, насякомаядныя расліны, падземныя органы раслін, размнажэнне раслін вегетацыйнымі органамі, прыстасаванне пладоў і сямян да рассялення ўласнымі сіламі, ветрам, пры дапамозе жывёл і т. д., колькасць сямян у розных раслін.

4. Нагляданні над развіццём культурных раслін: прарастанне, кушчэнне, калашэнне, малочная, васкавая і поўная спеласць, вымярэнне росту раслін у розных стадыях развіцця.

5 Вопыты вырашчвання раслін ў розных умовах на градках: уплыванне тэрміна пасеву, уплыванне ўгнаенняў, палійкі, праполкі, асвятлення, гушчыні стаяння, глыбіні задзелкі і т. д. Развядзенне раслін адводкамі, пабегамі, плецьмі, напрыклад: чорных і чырвоных парэчак, крыжоўніку, земляніцы, маліны і т. д.

## Летнія заняткі па заалогіі.

Праф. А. Ф. Бенкен

Для заняткаў па прыродазнаўству і ў прыватнасці для заняткаў па заалогіі наша школа павінна шырока скарыстаць летні перыяд, які у гэтых адносінах, на вялікі жаль, прападаў для школьнікаў. Школа павінна ўключыць у план сваей працы арганізацыю самастойных летніх прац вучняў па розных раздзелах прыродазнаўства ў форме канкрэтных заданняў. Гэтыя заданні павінны мець наступныя мэтавыя ўстаноўкі:

1. Весці самастойныя назіранні ў прыродзе над жыццём жывёл, што не можа быць заменена ніякім другім метадычным прыёмам работы.

2. Навучыць прыёмам збірання жывёл у пэўных месцах і спосабам захавання іх у жывым і мёртвым выглядзе.

3.Накапіць заалагічны матэрыял з тым, каб гэты матэрыял быў скарыстан для нагляднасці ў выкладанні курса заалогіі у класе на працягу цэлага года.

4.Загатовіць неабходны матэрыял для жывога кутка.

Усё гэта можна выканаць, прыстасаваўшы розныя формы працы. У першую чаргу неабходна скарыстаць калектыўную працу рабят ў лагерах, дзе прыродазнаўства ўваходзіць у расклад штодзённых заняткаў.

Вельмі карысна арганізаваць невялікія брыгады з рабят, даўшы ім пэўныя заданні для калектыўнай работы. Неабходна практыкаваць і індывідуальныя заданні на невялікія, але пэўна вызначаныя тэмы.

Для вучняў павінна быць зусім ясна тэхніка летняй работы і ім павінна быць своечасова дадзены пэўныя ўказанні ў залежнасці ад зместу і характару самых заданняў. Возьмем для прыкладу наступныя тэмы:

1. Якіх жывёл мы знаходзім пад карой

старых пней, пад дошкамі, камнямі і валежнікам?

2. Якія жывёлы спаткаюцца на кучках гною нашых хатніх жывёл?

3. Якія насякомыя наведваюць і апыляюць кветкі?

4. Як курыца вывела куранят?

5. Цыкл развіцця капусніцы і барацьба з ёю.

6. Насякомыя—мертваеды.

7. Назіранні за жыццём шпака ў шпакоўніцы.

8. Лістаеды на алешыне і другіх дрэвах і кустах.

9. Жыхары пруда.

10. Насякомыя, якія лётаюць, і іх прыстасаванні к палёту

11. Мурашкі і іх жыццё у муравейніку.

12. Якія рыбы водзяцца ў рэчцы і як іх ловяць?

13 Жыццё пчалы і догляд за ёю.

14. Якія птушкі жывуць летам у тваім садзе?

15. Чэрап і зубы ў млекакармячых жывёл.

16. Насякомыя—паразіты чалавека, жывёл і інш.

Пералік мажлівых тэм паказвае, наколькі розны павінен быць інструктаж у кожным асобным выпадку. У невялікім артыкуле немажліва даць поўныя і канчатковыя ўказанні ў гэтых адносінах, але для прыклада застановімся на першым заданні (якія жывёлы жывуць пад карой старых пнеў і т. д.). Педагог дае наступныя ўказанні для вучняў: 1) на палях, на дарогах, у лесе і другіх месцах пераварачвай камні, дошкі, валежнік, аддзірай кару старых пнеў і збірай усіх жывёл, каторых там знойдзеш.

2) У запісной кніжцы абавязкова адмячай, каго знайшоў і колькі экземпляраў—гэта адразу паможа ўстанавіць, хто часцей за усё спаткаецца. У кніжцы неабходна запісаць: пень № 1 (яловы), знайшоў тое і тое. Пень № 2 (бярозавы)—зноў запіс. Дошка каля дарог і — насельніцтва пад ёй. Валежнік у лесе— новыя дадзеныя.

3) Падмець паводзіны жывёлы, якая імкнулася спасціся ад цябе. Пастарайся паназіраць за ёй у няволі, стварыўшы падыходзячыя для гэтага ўмовы.

4. Усё сабранае сумей захаваць для школы як у жывым, так і у мёртвым выглядзе.

5. Апішы ўсе твае назіранні, каб можна было пазнаёміць з імі тваіх таварышоў і навучыць іх работаць такім-жа чынам.

У падобным інструктажы самае галоўнае указаць, як весці работу, як яе фіксаваць у дзённіку і як захоўваць назбіранае для школы.

Апрача тэарэтычнага інструктажа не абходна даць і практычны інструктаж аб тым, як збіраць матэрыял, як умярцвіць яго і як захаваць у прыгодным выглядзе Насякомых трэба раскладаць на пластах ваты, другіх жывёл захаваць у спірту або саляным растворы, трэціх пакінуць у жывым выглядзе і т. д.

Лавіць жывёл можна рукамі, сачком, у лавецкую яму, пінцэнтам на прыманку і т. д.

Педагог абавязан прадумаць кожную тэму ад пачатку да канца таму, што толькі такім чынам можа быць забяспечана якасць летніх заданняў для вучняў.

Асабліва важна, каб вучань зразумеў, што яго летняя праца патрэбна не для яго аднаго, а для ўсяго класа і для усей школы. Усведамленне карыснасці сваей працы—лепшы стымул для работы; педагог ніколі не павінен гэтага забываць. На летні перыяд усю ўвагу вучняў трэба скапцэнтраваць на самых назіраннях над жывымі аб'ектамі ў прыродзе, на працэсе свядомага і арганізованага іх збірання.Вывучэнне-ж матэрыяла па літаратурных крыніцах, правільнае вызначэнне назбіранных аб'ектаў і апрацоўку іх у форме калекцый—трэба адлажыць на восень і на зіму, калі будзе больш часу і калі можа быць аказана большая дапамога з боку настаўніка.

На лета неабходна. такім чынам, каб вучань знаў: 1) над чым ён будзе працаваць, 2) як ён гэта будзе рабіць, 3) што для гэтага трэба прыпасці зараней (банку-марылку, сачок, каробачкі, прабіркі, серныя бумажкі і т. д.) Вучня не павінна палохаць нават аднатоннасць збіраемага матэрыяла з той прычыны, што масавы збор адных і тых-жа жукоў, гусеніц, пер'яў, ракаў і т. д. забяспечыць школу раздатачным матэрыялам, неабходным для пастаноўкі лабараторных заняткаў. Апрача гэтата, некаторыя калекцыі мажліва саставіць толькі пры умове масавага збора адпаведнага матэрыяла, напрыклад, калекцыя для дэманстрацыі з'яў індывідуальнай зменнасці ў прыродзе.

Недахоп летніх заданняў у мінулым заключаўся у тым, што назбіраны матэрыял дастаўляўся ў такім стане, пры каторым не было ніякай мажлівасці яго скарыстаць у школе. Гэты этап работы патрабуе сваёй асаблівай увагі. Банка са спіртам або крэпкім рассолам забяспечыць мажлівасць збора ракаў, гусеніц, кузнечыкаў і т. д. Самадзейныя садкі дазволяць даставіць каштоўны жывы матэрыял.Пусты спічачны карабок з папярэчнымі прарэзамі у крышцы—удоб-

нае памяшканне для дастаўкі вялікай жужаліцы, павукоў і т. д

Усё гэта не цяжка, але трэба наперад абдумаць і проста ведаць, як гэта зрабіць. У рабят павінна быць зацікаўленасць выканаць даручанае як мага лепш, не гонячыся за колькасцю матэрыяла.

У восень першыя дні знаходжання вучняў у школе неабходна аддаць уважліваму вучоту прароблenай летняй работы. Частку матэрыяла перанесці ў больш надзейныя фіксуючыя вадкасці, жывы матэрыял размясціць у віварыўмах, намеціць план далейшай работы па догляду і апрацоўцы назбіранага матэрыяла, прывядзенню у парадак дзённікавых запісаў, замалёвак і інш. Нічога не павінна прапасці, з усяго павінны быць зроблены адпаведныя вывады. Толькі пры такіх уважлівых і ўдумлівых адносінах к гэтай справе вучань навучыцца паважаць сваю працу і зразумее яе прызначэнне: школа-ж узбагаціцца каштоўнейшымі вучэбнымі дапаможнікамі, і педагог сам навучыцца многаму з вопыта рабят.

Рэкамендуемая літаратура: **С. А. Павлович**—„Простейшие работы по естествознанию в школе и дома" **Жуков**—„Изготовление скелетов". „Программы и наставления для наблюдений и собирания коллекций"—составлены Особой Комиссией О-ва естествоиспытателей.

## Феналагічныя назіранні.

**Праф. Л. Н. Ніканаў**

Спіс з'явішч, якія трэба наглядаць улетку.

1. У свеце раслін:

Пачатак цвіцення: Іван-чаю (кіпрэю), жыта, бульбы пасеўнага гароху, гуркоў на градках, ліпы. Сазраванне пладоў: бярозы (асыпанне), жыта, пшаніцы, ячменю, ільну, вішні, чорнай і чырвонай парэчкі, крыжоўніку, чарніцы і брусніцы. З'яўленне першых жоўтых лісцяў на бярозах і ліпах. Узыходы азімых пасеваў.

Дадатковыя назіранні: пачатак цвіцення: сіняга васілька, вераску, гароднага (жоўтага) асоту, белай і жоўтай вадзяніцы (куўшынкі), гарачаўкі (сініх званочкаў). Сазраванне пладоў: вязу (асыпанне), клёну (асыпанне), топаля (палёт лятучак), Іван-чаю (палёт лятучак), жоўтай акацыі (раскіданне гарошын). З'яўленне жоўтых лісцяў: акацыі, клёну і асіны (у апошніх жоўтых і чырвоных).

II. У свеце жывёл:

Пачатак раення пчол, вылет маладых берагавых ластавак (стрыжоў). Канец спявання салаў'я. Пачатак стракатання кузнечыкаў. Адлёт берагавых ластавак (стрыжоў).

Дадатковыя назіранні:

З'яўленне жукоў-светлякоў, стракоз (з сінімі крылкамі) над вадой. Апошняе кукаванне зязюлі. Другія вывадкі вараб'ёў. Пачатак лёта і раенне чорных мурашак.

---

## АД РЭДАКЦЫІ.

Нараду з метадычнымі артыкуламі праф. Л. Н. Ніканава і праф. А. Ф. Бенкена мы змяшчаем ніжэй планы летніх заняткаў па прыродазнаўству для няпоўнай сярэдняй школы. Гэтыя планы складзены пад рэдакцыяй Д. А. Судоўскага.

Мы рэкамендуем выкарыстаць гэтыя планы ў піонерлагерах і на дзіцячых пляцоўках.

| Феналагічныя назіранні | Экскурсіі | Назіранні на прышкольным участку, у жывым вугалку або сярод прыроды | Работа на школьна-вопытным участку | Прыгатаўленне калекцый | Збіранне раздатачнага матэрыяла |
|---|---|---|---|---|---|
| | | **I клас** | | | |
| Вядзенне феналагічных назіранняў (працяг календара прыроды).<br>Неабходна адмеціць:<br>1. З'яўленне ўсходаў і лісцяў у садовых і агародных раслін, іх цвяценне і пладанашэнне.<br>2. Час з'яўлення сарнякоў на агародзе пасля полкі.<br>3. Час з'яўлення шкодных насякомых на агародзе і ў садзе. | На агарод мясцовага калгаса або соўгаса.<br>Тэма:<br>1. Сарнякі; шкоднікі з ліку насякомых.<br>2. Карысныя і шкодныя для агарода і саду птушкі. | 1. Назіранні за развіццём 2—3 садовых або агародных раслін (час пасеву, з'яўленне ўсходаў, лісцяў, кветак, пладоў і насення).<br>2. Назіраць і запісаць па знадворным адзнакам (знадворны выгляд, размер, характар палёта), якіх птушах удалося бачыць у агародзе, садзе або полі.<br>3. Вырашчванне раслін у яшчыках і ў грунце (цыбуля, рэдзіс, салат, гарох, кветкавыя культуры). | 1. Развядзенне дэкаратыўных кветак і догляд за імі.<br>2. Пабудова батанічнага садзіку на градках.<br>3. Раздзелка ўскапаной грады, клумбы, пасеў насення па шнуру, пасадка расады і кветкавых культур. Паліўка, полка, рыхленне, пастаноўка колічкаў. | Калекцыя насення з свайго ўчастка—кветкавых або агародных. | 1. Лісця розных дрэў па 10 штук.<br>2. Калосся хлебных раслін па 5—6 штук.<br>3. Шышкі елкі, сасны і лістверніцы з насеннямі па 10 штук. |
| | | **II клас** | | | |
| Вядзенне календара прыроды і атрыманне сярэдніх вывадаў за месяц.<br>Адмеціць:<br>1. Выпадкі выпадзення града, з'яўленне туману, расы, выпадкі гразы.<br>2. Час вывядзення птушкамі птушанят, вылет птушанят, выпадкі адлёту птушак.<br>3. Час з'яўлення ягад, грыбоў, выспявання хлебных або агародных раслін. | На пруд ці рэчку.<br>Тэма:<br>Жыццё нашых прэсных вадаёмаў (драпежныя і смірныя жыхары пруда. | 1. Развіццё камароў і жукаплавунца.<br>2. Развіццё матылька-крапіўніцы і інш.<br>3. Вырашчванне раслін у грунце (рэдзіс, салат, цыбуля, морква, рэпа, буракі, гарох, боб.). | 1. Ачыстка пасеваў ад шкоднікаў і сарнякоў.<br>2. Загатоўка корму для трусоў—догляд за трусамі.<br>3. Барацьба з шкоднікамі (збіранне шкоднікаў з капусты).<br>4. Уборка ўраджаю. | 1. Калекцыя ветак дравесных раслін.<br>2. Калекцыя сорных траў (5—10 экз.).<br>3. Калекцыя насякомых (карысных і шкодных). | 1. Пашкоджаныя караедамі кускі кары.<br>2. 5—6 экз. сухіх жукоў караедаў, майскіх жукоў, бронзавак, красных каровак.<br>3. Узоры мінералаў:<br>1) граніт, яго часткі;<br>2) вапнякі;<br>3) гліна і пясок;<br>4) глеба. |

| Фэналагічныя назіранні | Экскурсіі | Назіранні на прышкольным участку, у жывым вугалку або сярод прыроды | Работа на школьна-вопытным участку | Прыгатаўленне калекцый | Збіранне раздатачнага матэрыяла |
|---|---|---|---|---|---|
| | | **III клас** | | | |
| Вядзенне календара прыроды. Карыстанне прасцейшымі прыладамі.<br>Адмеціць:<br>1. З'яўленне расы, туману, ліўні, выпадзенне граду, выпадкі гразы, з'яўленне радугі.<br>2. Час цвяцення і пладаношэння на палях—рамашкі, калакольчыка, васілька, канюшыны, бульбы.<br>3. Час пасадкі гуркоў, бабоў і іх выспяванне. | Экскурсія на тарфяное балота.<br>Тэмы:<br>1. Тарфянікавыя расліны і іх роля ў справе ўтварэння торфу.<br>2. Дзейнасць рэчкі і ўтварэнне наносаў. | Прасачыць:<br>1. Жыццё школьнікаў поля, агароду або саду, хуткасць іх распаўсюджвання.<br>2. Узросныя змены 2—3 агародных раслін і 2—3 сарнякоў.<br>3. Вырашчванне семяннікоў у жывым вугалку. Вырашчванне ў жывым вугалку гуркоў, бруквы, памідораў. | 1. Догляд за пасевам.<br>2. Пабудова драўлянага пітомніка.<br>3. Прасачыць паступовасць сельска-гаспадарчых работ і запісаць іх у сістэме.<br>4. Высадка ў грунт расады і догляд за ёю.<br>5. Пасадка земляніві.<br>6. Уборка ўраджаю.<br>7. Догляд за ягаднікам. | 1. Калекцыя раслін тарфяных балот.<br>2. Калекцыя хлебных раслін.<br>3. Калекцыя 2—3 узросных змен агародных раслін і сарнякоў. | 1. Назбіраць лукавіцы, карнявішчы, клубні дзікарастучых раслін і засушыць па 2—3 экз. тых жа раслін.<br>2. Насенне і плады сорных траў агарода і поля.<br>3. Прадукты дзейнасці рэчак і крыніц.<br>4. Узоры торфа. |
| | | **IV клас** | | | |
| Працяг фэналагічных назіранняў.<br>Складанне календара сельска-гаспадарчых работ мясцовага калгаса і соўгаса. | Соўгас або калгас.<br>Тэмы:<br>1. Нашы хатнія жывёлы, догляд за імі і ўтрыманне.<br>2. Нашы агародныя расліны, іх ворагі і прыяцелі.<br>3. Жыццё пчол. | 1. Назіранні за насякомымі-апыліцелямі.<br>2. Хваробы культурных раслін (капусты, бульбы, жыта, агрэста).<br>3. Уплыў сарнякоў на развіццё культурных раслін.<br>4. Назіранне за развіццём тэхнічных раслін (лён, падсолнечнік, каноплі). | 1. Складанне календара сельска-гаспадарчых раслін.<br>2. Догляд за пладовым садам і ягаднікам<br>3. Уплыў угнаення на пасевы і догляд за імі.<br>4. Ахова карысных жывёл.<br>5. Догляд за кролікамі, курамі і куранятамі. | 1. Мясцовыя лекавыя расліны (мята, ліпа, рамашка, валерыян).<br>2. Калекцыя мхоў і лісцяў папаратніка).<br>3. Калекцыя мясцовых тэхнічных раслін. | 1. Узоры мясцовых глеб.<br>2. Насенне агародных раслін; мясцовых лекавых і хлебных.<br>3. Спарыння, іржаўчына і галаўня на калоссях хлебных раслін.<br>4. Узоры мясцовых драўесных парод (распілы). |

# Летнія заняткі для 5 і 6 групы па батаніцы

(Складзена Н. П. Верзіліным).

| Назіранні дома і ў жывым кутку | Экскурсіі | Феналагічныя назіранні | Работа і назіранні на вучэбна-вопытным участку | Складанне калекцый | Збор раздатачнага і дэманстрацыйнага матэрыялу і раслін для жывога кутка |
|---|---|---|---|---|---|
| Па пройдзенай праграме 5га года навучання. | | | | | |
| Заданні разлічаны на вучняў, якія застаюцца ў горадзе.<br>Якія расліны і калі зацвілі ў жывым кутку і дома.<br>Паставіць вопыты:<br>1. Па вырашчванню ў водных і пясчаных культурах.<br>2. З утварэннем фігур Сакса<br>3. Выпарэннем.<br>4. Штучным апыленнем (фуксія і інш.).<br>5. Прышчэпкай (кактусаў, герані і інш.).<br>6. Чаранкаваннем і інш. спосабамі вегетацыйнага размнажэння.<br>7. Сілай і шпаркасцю росту.<br>8. Вопыты с карлменнем расянкі і інш. | Заданні, галоўным чынам для едучых у лагеры, для тых, хто займаецца на пляцоўках і гуртках юннатаў.<br>1. Цвітучыя расліны і месцы іх абітання (са зборам раслін і наступным азначэннем іх).<br>2. Віды глебы і іх асаблівасці (утварэнне разрэзаў, зарысоўка, узяцце ўзораў глебы і раслінасці).<br>Збор дзікіх раслін для культуры (збор лякарственных, тэхнічных, дэкарацыйных і ягадных раслін з перасадкай на вучэбны участак. Засадка батанічных градак ці раздзелаў біялогіі, марфалогіі, сыстэматыкі раслін). | Якія расліны зацвітаюць 10/VI 10/VII, 10/VIII ці ў другія вызначаныя дні. | Паставіць вопыты:<br>1. Па ўплываванню святла на рост расліны (закрыванне скрыняй).<br>2. Па фотаперыядызму (з раслінамі кароткага дня: тамат, бульба, проса, соя, астры; доўгага дня: пшаніца, салат, рэдзіс).<br>3. З мульчырваннем (пакрыццё глебы прафарбаваным кардонам) морквы, буракоў, бульбы.<br>4. З перасадачнай культурай (і акучкай) пшаніцы ячменю, аўсу.<br>5. З траўматычнымі ўздзеяннямі (прышыпкай, абрэзкай, пікіроўкай, кальцаваннем). Тамат, кукуруза, капуста і інш.<br>6. Прывіўка тамата на бульбе і др. раслінах.<br>7. Вегетацыйнае размнажэнне: адводкамі, чаранкамі, вусамі (ягадных, пладовых і дэкарацыйных).<br>8. Абрэзка і фармаванне ягадных і дравесных раслін.<br>9. Прадленне жыцця аднагадовых цвітучых раслін (абрыванием бутонаў).<br>10. Фатаграфія і фігуры Сакса на лісцях.<br>11. Штучнае апыленне раслін (гарох, львіны зеў, вішня і інш.).<br>12. Вопыт на густату пасеву ільну.<br>13. З ушчыльнёнымі культурамі.<br>14. З вызначэннем ураджайнасці глебы (з угнаеннем). | 1. Сабраць гербарый з 20 відаў раслін на тэмы:<br>Культурныя расліны, лякарственыя, тэхнічныя, (прадстаўнікоў розных сямействаў, прадстаўнікоў аднаго сямейства).<br>Раслін лугу.<br>" лесу.<br>" балота.<br>Пустазельных раслін.<br>Дэкарацыйных раслін.<br>2. Скласці калекцыі розных форм і відазмяненняў: карэнняў, лісцяў, сцёблаў, кветак, пладоў і сямян, кветкавага пылку.<br>3. Калекцыі ўсходаў культурных раслін і пустазелля.<br>4. Древесных парод. | 1. Матэрыял для заняткаў па анатоміі.<br>Плады: шыпоўніка і рабіны.<br>Сцёблы: ільну, тыквы, пшаніцы, падсолнечніка, кукурузы.<br>Галіны: івы, бузіны, ліпы, яблыні, парэчкі.<br>Корані: люціка, ірыса; кветкі фіялкі.<br>Лісці імху серабрыстага, сцёблы крапівы (валаскі), эладэі, і інш.<br>2. Матэрыял па марфалогіі ў выглядзе калекцый (гл. графу „складанне калекцый"), але ў многіх экземплярах, без вызначэння і афармлення па 10—20 экз.<br>3. Пасадзіць у гаршкі для жывога кутка па 2—4 экз.<br>Ксерафітаў: ачытак, маладзіла.<br>Раннія вясеннія расліны: маці і мачыха, пераleска, манжэтка, чысцяк, кісліца, лугавы чай, ландыш і інш.<br>Двухгадовыя: морква, буракі, рэпа, капуста, рэдзька.<br>Насекомаядныя: расянку.<br>Паразітаў: павіліку.<br>Вадзяных раслін: рогаліснік, люцік вадзяны, стрэлаліст, пузырчатку, земнаводную грачыху і інш. |

| Назіранні дома і ў жывым кутку | Экскурсіі | Феналагічныя назіранні | Работа і назіранні на вучэбна-вопытным участку | Складанне калекцый | Збор раздатачнага і дэманстрацыйнага матэрыялу і раслін для жывога кутка |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | 15. Назіранні за развіццём пустазелля (напрыклад, эфемерам макрычнікам).<br>16. Біялогіяй раслін на батанічнай градцы (напрыклад, адуванчыкам). | | |
| **Да праходжання праграмы 6-га года навучання.** | | | | | |
| 1. Засеяць і вырасціць 5 раслін: з злакавых, авашчных, бабовых, летніх кветак. Адзначыць стадыі іх развіцця.<br><br>2. Высеяць на пракіпячоны торф споры імху, папарці (можна з гербарыя), хвашча.<br><br>3. Пасадзіць пад калпаком мох-сфагнум (узяты з гербарыя).<br><br>4. Назіраць за жыццём кочкі, прынесенай з балота. | 1. Расліны вадаёмаў, балот і лясоў. (Збор раслін для гербарыя, калекцый і кансервавання з апісаннем месца і асаблівасцяй абітання).<br><br>3. Ураджайнасць калгасных (соўгасных) палёў і гародаў.<br><br>3. Ураджайнасць лугоў (яруснасць, калькасць травы і сена з учотных пляцовак). | 1. Адзначыць стадыі развіцця пяці культурных(не менш 3 раз) палявых, авашчных, дэкарацыйных, ягадных раслін.<br><br>2. У які час праводзяцца якія с/гас. работы ў полеці гародзе і з якімі культурамі | 1. У калекцыйных пітомніках—палявых, карнявых, авашчных, лякарственых, новых, дэкарацыйных раслін вырасціць не менш 3 х культур з апісаннем іх развіцця і ўчотам розніцы ад другіх у іх форме і развіцці.<br><br>2. Перанесці ў вадаём участка водарасці і прасачыць іх развіццё.<br><br>3. Утварыць забалочаны ўчастак з рознымі прадстаўнікамі балотнай расліннасці.<br><br>3. Улічыць, на якіх раслінах якія заметны хваробы (сабраць узоры). | Скласці калекцыі:<br>1. Новых культур.<br>2. Зернавых.<br>3 Кармавых.<br>4. Тэхнічных (маслічных, прадзільных і інш.).<br>5. Хвароб культурных раслін.<br>6. Грыбоў (трутавікоў).<br>7. Лішайнікаў.<br>8. Імхоў.<br>9. Папарацей.<br>10. Хвашчэй і плавуноў.<br>11. Хвойных.<br>12. Водарасцей (жывых, засушаных).<br>13. Пасяўных сямян: палявых, авашчных, дэкарацыйных раслін. | Сабраць (па 10—20 экз.):<br>1. Расліны: са спарынёй, галаўнёй, іржаўчынай, (мучністай расой і фітафторай).<br>2. Лішайнікі (алені, ісландскі. залатнянку, барадаты).<br>3. Імхі: кукушкін лён, сфагнум, маршанцыя.<br>4. Папарацяпадобных: папараці, хвашчы, плавуны.<br>5. Высеяць споры імху, папараці і хвашча на пракіпячоным торфе.<br>6. Сабраць, захаваць жывымі і закансерваваць водарасці: пратакок (на кары), улатрыкс, кладафору, батрыдыум, хламідаманаду, вольвокс, эўдарыну (цвяценне вод: чэрвень—жнівень).<br>7. Грыбы: трутавікі, дажджавікі, пласцінчатыя, трубчатыя.<br>8. Шышкі сасны ў перыяд цвяцення (пылковую і пладушчую). |

## Матэрыялы летніх заданняў па курсу заалогії для 5, 6 і 7 класаў сярэдніх школ (складзена Н. А. Рыкавым).

| Феналагічныя назіранні | Працяглыя назіранні і вопыты | Работы на участку | Экскурсіі | Збор матэрыялу | Складанне калекцый | Пазакласная літаратура |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Для старэйшых класаў спецыяльна пералічэнне феналагічных назіранняў на лета не распрацоўваецца. Але паралельна з увядзеннем працяглых назіранняў феналагічныя даныя ўлічваюцца. Асобна адзначаюцца толькі рэзкія змены, якія адбываюцца ў жывёльным насельніцтве мясцовага края. | Па прасцейшым: пры наяўнасці мікраскопа, пры умове добрасумленнай работы рабят і мажлівасці даверыць ім мікраскоп.<br>1. Вывучэнне фаўны прасцейшых акаляючых вадаёмаў. | — | На вадаём | Залажэнне культур прасцейшых | Зарысоўка прасцейшых | 1. Справачник—Ламперт „Жизнь пресных вод". 1900 г.<br>2. Догель — „Как производить биологические наблюдения над простейшими". 1927 г.<br>3. Шеффер—„Опыты над живой природой" 1927 г. |
| | **Па кішочна-поласным:**<br>1. Летняе жыццё гідры: перасоўванне, жыўленне размнажэнне, рэгенерацыя і т. д. | — | На вадаём | Захаванне гідры для жывога кутка | — | 1. Шеффер—„Опыты над живой природой" 1927 г.<br>2. Исаев—„Пересадка гидр и сращивание". |
| | **Па чарвям:**<br>1. Жыццё дажджавога чарвяка: глебаўтвараючая роля, размнажэнне, рэгенерацыя.<br>2. П'яўкі: дыханне, размнажэнне (у клепсіны), жыўленне. | Наглядание над чарвямі | На вадаём | Запас чарвей Матэрыял для жывога кутка | Матэрыял для жывога кутка | 1. Натали—„Животные и растения в уголках живой природы" 1925 г. |
| | **Па малюскам:**<br>1. Вывучэнне фаўны мясцовых малюскаў. | Збор слізней і пры неабходнасці-барацьба | На вадаём, у сад, у поле, у лес | Запас бяззубак і інш. малюскаў для жывога кутка | Зарысоўкі і калекцыя ракавін | **Для азначэння:**<br>1. Владимирский — „Наши пресноводные моллюски" 1927 г.<br>2. Ламперт. — „Жизнь пресных вод" 1900 г.<br>3. Райков и Римский—Корсаков. „Зоологические экскурсии" 1927 г.<br>4. Винтергальтер—„Моллюски" 1925 г. |
| | **Па членістаногім:**<br>I. Вывучэнне шкоднікаў.<br>1. Біялогія бялянкі.<br>2. Азімовая соўка.<br>3. Кальчаты шоўкапрад.<br>4 Ябланавы кветкаед.<br>5. Бярозавы забалоннік.<br>6. Вывучэнне шкоднікаў капусты. | 1. Барацьба са шкоднікамі<br>2 Вывучэнне пчолаводства. | У лес, у гарод, у поле, у сад, на калгасную пасеку | Загатоўка майскіх жукоў—навознікаў, плавунцоў і інш насякомых для кутка | 1. Па асобным відам жывёл.<br>2. Шкоднікі садоў.<br>3. Шкоднікі лесу.<br>4 Шкоднікі гароду. | 1. Щербиновский—„Рассказы о вред. с/хоз." 1929 г.<br>2. Он же — „Вредители с/х." и т. д. 1931 г.<br>3. Щербаков - „Наблюдения над насекомыми" 1929 г.<br>4. Шеффер—„Опыты над живой природой" 1927 г.<br>5. Кнауэр—„Муравьи". |

| Феналагічныя назіранні | Працяглыя назіранні і вопыты | Работы на ўчастку | Экскурсіі | Збор матэрыялаў | Складанне калекцый | Пазакласная літаратура |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | II. Карысныя членістаногія:<br>1. Наезднік апантэлас.<br>2. Наезднік птэрамалюс.<br>3. Рачны рак і яго дабыванне.<br>4. Чырвоная кароўка і жужаліцы.<br>III. Біялагічныя асаблівасці членістаногіх:<br>1. Жыццё мурашак.<br>2. Жыццё водных насякомых.<br>3. Вывучэнне жыцця пчол.<br>4. Жыццё мураўінага льва.<br>IV. Барацьба са шкоднікамі. | | | | 5. Шкоднікі поля<br>6. Яечак насякомых.<br>7. Гусеніц.<br>8. Пашкоджанняў<br>9. Калекцыю насякомых з ахоўнай афарбоўкай. | 6. Беркос—„Речной рак".<br>7. Богданов—Катьков—„Краткий курс теоретической и прикладной энтомологии" 1930 г.<br>8 Он же — „Энтомол. экск. на огород" 1925 г.<br>9. Фабр. — „Жизнь насекомых" 1906 г<br>10. Филиппов. — „Определитель насекомых" 1933 г. |
| | **Па рыбам:**<br>1. Нашы мясцовыя промрыбы і іх промысел.<br>2. Біялагічныя асаблівасці рыб: донныя і паверх. рыбы, афарбоўка і т. д. | — | На вадаём, на рыбаводны завод | Запас для акварыўма | Спіртовыя прэпараты | 1. Правдин—„Рыбы Ленинградской области" 1930 г.<br>2. Несмелов—„Рыбы Ленинград. области" 1931 г.<br>3. Формков—„Наши местные рыбы" 1928 г.<br>4. Варпаховский—„Опр. преснов. рыб европ. России" 1898 г.<br>5. Арнольд — „Трудовое хозяйство" 1924 г. |
| | **Па земнаводным:**<br>Летняе жыццё земнаводных. | Ахова і утварэнне убежышч | На вадаём | Запас лягушак, трытонаў, жаб | Спіртовыя прэпараты | 1. Маркушок—„Лягушка" 1926 г.<br>2. Никольский „Рыбы и гады" 1914 г. |
| | **Па паўзунам:**<br>Летняе жыццё мясцовых паўзуноў: азнаемленне з відавым складам, з жыўленнем, развіццем, ліняннем і інш. асаблівасцямі. | — | У лес | Збор прадстаўнікоў для жывога кутка | Спіртовыя прэпараты | Никольский — „Рыбы и гады" 1914 г. |

| Феналагічныя назіранні | Працяглыя назіранні і вопыты | Работы на ўчастку | Экскурсіі | Збор матэрыялаў | Складанне калекцый | Пазакласная літаратура |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | **Па птушкам**:<br>І. Монаграфічныя работы:<br>1. Жыццё ў скварэчніку.<br>2. „ берагавых ластавак.<br>3. „ кукушак.<br>4. „ жаваранка.<br>ІІ. Вывучэнне асобных груп:<br>1. Плаваючыя птушкі.<br>2. Драпежныя.<br>3. Прамысловыя птушкі.<br>4. Карысныя і шкодныя ў сельскай гаспадарцы птушкі. | Вывучэнне жыцця хатніх птушак. Ахова птушак. | У пціцагадоўчую ферму | Збор экспанатаў па біялогі птушак | Матэрыял для музея | 1. Формозов — „Шесть дней в лесах“ 1929 г.<br>2. Корнева — „Наблюдения над птицами в городе“ 1929 г.<br>3. Залесский—„Набивка чучел“ 1931 г.<br>4. Новиков и Чирков — „Наши хищные птицы“ 1931 г.<br>5. Определитель птиц — Холодковский и Силантьев 1914 г.<br>6. Мензбир. — „Птицы России“ 1912 г. |
| | **Па Млекакармячым**:<br>Нашы прамысловыя жывёлы і іх дабыванне: азнаямленне з відавым складам, з логавамі, норамі, лінькай, спячкай, перасяленнямі, дабываннем і т. д. | Вывучэнне жыцця хатніх жывёл і арганізацыі гаспадаркі | У лес | Збор матэрыялу для музея | — | 1. Арсеньев — „Дерсу-узала“ 1933 г.<br>2. Арсеньев—„По Уссурийскому краю“ 1928 г.<br>3. Долганенков—„Пушистое золото“ 1933 г.<br>4. Фалькенштейн — „Промысловые звери и птицы“ 1931 г.<br>5. Васильковский — „Промысловые птицы и звери“. |

# Аб некаторых пытаннях падрыхтоўкі да новага вучэбнага года

Т. І. Агафонаў

Настаўнікамі — слухачамі педолага-педагагічных курсаў, арганізаваных пры Віцебскім педагагічным інстытуце ім. С. М. Кірава, у пачатку гэтага вучэбнага года было праведзена спецыяльнае абследванне падрыхтоўкі гарадскіх школ да новага вучэбнага года па 19 школам. Перада мной ляжаць матэрыялы гэтага абследвання.

Настаўніца 22-ой чыгуначнай школы т. Артабалеўская піша: „Светлыя, утульныя, чыстыя класы, вучэбныя дапаможнікі, падручнікі, сшыткі, мел, чарніла, —усё было гатова, усё чакала вучняў“. У адчоце настаўніцы 4-ай школы т. Багатыровай чытаем: „У выніку падрыхтоўкі да новага вучэбнага года наша школа ўтварыла вялікі рамонт: пабелены сцены і паталок, пафарбаваны парты, сталы, дошкі, шафы; падрыхтаваны вучэбныя дапаможнікі, кнігі, сшыткі, ручкі, пер'я, чарнільніцы, чарніла — усё ў дастатковай колькасці“. Такая своечасовая дакладная падрыхтоўка да новага вучэбнага года была праведзена ўлетку мінулага года і другімі школамі Віцебска.

Аднак у многіх школах трэба адзначыць рад сур'ёзных недахопаў. Напрыклад, у тым жа адчоце т. Багатыровай, малюючай карціну поўнай падрыхтаванасці школы к пачатку вучэбнага года, гаворыцца: „У мой клас у першы дзень з'явілася 15 дзяцей, а па спісам іх значылася 27. Першы урок прайшоў не зусім здавальняюча, бо ён часта перарываўся бацькамі, прыводзіўшымі спазніўшыхся дзяцей“.

Спазненнем дзяцей не вычэрпваюцца так званыя „педагагічныя дробязі“. Настаўніца 46-ай школы т. Лазоўская піша: „Хоць рабяты прышлі ў школу ўсе, але многія з'явіліся бруднымі, непастрыжанымі і ў бруднай нацельнай бялізне. Замест вучобы прышлося правесці гутарку з дзецьмі і бацькамі аб гігіенічным мінімуме школьнікаў. Гутарка прывяла да належных вынікаў“.

Звяртаем увагу на наступную вытрымку з адчота настаўніцы 6-й школы: „Будучы прызначана з пачатку вучэбнага года ў новы клас, я зусім не ведала рабят, з якімі мне прыдзецца працаваць, але чула, што ў класе многа дэзарганізатараў і слабапаспяваючых. Таму я пачала сваё знаёмства з дзецьмі з праверкі спісу; выклікаю вучня, непрыметна для другіх быстра аглядваю яго знешні выгляд, вывучаю выраз твару; так складаюцца ў мяне першыя ўражанні аб вучню“. Мы лічым, што такі метад первічнага азнаямлення настаўніка з вучнямі з'яўляецца зусім недапусцімым, а між тым поўнае незнаёмства з вучнямі ў першыя дні заняткаў — з'явішча звычайнае ў нашых школах.

Мы лічым, што кожны педагог павінен хоць бы арыентыровачна, але абавязкова да 1 верасня вывучыць той дзіцячы калектыў, з якім яму прыдзецца працаваць. К вывучэнню вучня неабходна приступіць не пазней сярэдзіны жніўня. Вывучэнне трэба пачынаць з азнаямлення педагога з асабовымі справамі вучняў: анкетамі па абследванню соцбытавога асяроддзя, дзённікамі наглядання ў, характэрыялагічным і ўчотна-акадэмічным матэрыялам. Разбор гэтага матэрыялу педагогамі, прымаючымі клас, павінен весціся пры ўдзеле выхавацеляў, якія раней работалі ў гэтым класе, а таксама пры ўдзеле дырэктара, заг. вучэбнай часткай і, калі ёсць, то і школьнага ўрача і педолага. Азнаёміўшыся з гэтым матэрыялам, педагог павінен накіравацца ў сем'і тых дзяцей, якія па той ці іншай прычыне павінны быць вывучаны асабліва дакладна. Калі дазволіць час, то пажадана наведванне ўсіх школьнікаў на даму да 1 верасня. Гэта асабліва важна для педагогаў-навічкоў, а таксама для работнікаў старага складу ў выпадку прымацавання іх да новых класаў. Тыя-ж настаўнікі, якія застануцца работаць у ранейшым, знаёмым ім дзіцячым калектыве, могуць абмежавацца вывучэннем толькі ўноў прыбыўшых у іх клас вучняў. Тут трэба агаварыцца, што гэта першае наведванне вучняў на даму мае мэтай не глыбокае вывучэнне школьніка, а толькі первічнае знаёмства з ім і яго роднымі. Педагог прыходзіць у сям'ю „без каранддаша і паперы“ і тлумачыць свой „няўрочны візіт“ прыкладна так: „Я зайшоў даведацца аб тым, як адпачывае мой будучы выхаванец, я хачу даць яму некалькі парад, як падрыхтавацца да новага вучэбнага года“.

Далей мы лічым неабходным правесці на працягу лета адзін ці два сходы бацькоў для таго, каб высветліць, ці забяспечан культурны адпачынак дзяцей на час канікул. У асобных выпадках школа павінна паклапаціцца аб залічэнні рабят на дзіцячыя пляцоўкі, у дзіцячыя дамы адпачынку ці піонерскія лагеры. На гэтых сходах трэба таксама праверыць, як ідзе падрыхтоўка да залікаў тых вучняў, якім здача залікаў перанесена на восень.

Мы рэкамендуем таксама пагаварыць з бацькамі аб неабходнасці ўтварэння дома рабочага кутка для школьніка, пагаварыць з імі аб санітарным мінімуме, напомніць аб закупцы вучэбных дапаможнікаў для школьніка. У асобных выпадках трэба практыкаваць адчоты бацькоў аб зробленай рабоце па падрыхтоўцы іх дзяцей да наступаючага вучэбнага года. На сходах трэба адзначыць тых бацькоў, якія, не гледзячы на цяжкія бытавыя ўмовы, зрабілі ўсё магчымае для арганізацыі адпачынку сваіх дзяцей і разгарнулі работу па падрыхтоўцы дзяцей к пачатку вучэння. Трэба адзначыць і тых, якія ігнаравалі ўказанні школы і не паклапаціліся ні аб адпачынку дзяцей, ні аб падрыхтоўцы нармальных умоў для паспяховай работы вучня ў наступаючым годзе. Трэба так уздзейнічаць на бацькоў, каб яны пакінулі сход з цвёрдым рашэннем падрыхтаваць усё неабходнае к пачатку вучэбнага года, каб гэты настрой—паударнаму пачаць новы вучэбны год—перадаўся і дзецям.

30—31 жніўня трэба склікаць старэйшых піонераў і комсамольцаў актывістаў з тым, каб яны дапамаглі ў рабоце па афармленню памяшкання школы; з іх асяроддзя трэба выдзеліць на 1 верасня дзяжурных, здольных арганізавана і ветліва сустрэць астатнюю масу вучняў і ў асаблівасці навічкоў.

Мы зварочваем увагу настаўнікаў на неабходнасць красачнага афармлення школьных памяшканняў к пачатку вучэбнага года. Прыгожыя плакаты, мастацкі напісаныя лозунгі, партрэты ў рамах пад шклом, вазоны, букеты цвятоў,—усё гэта на агульным фоне закончанай, усебакова прадуманай работы па падрыхтоўцы да новага вучэбнага года прымусіць дзяцей і бацькоў паважаць школу, любіць і берагчы яе парадак, яе ўют; ужо гэта адно значна зменшыць колькасць парушыцеляў парадку і рэжыма школы.

Гаворачы аб афармленні памяшкання школы, хочацца сказаць некалькі слоў аб школьных дварах. У Віцебску школьныя двары ні ў якой ступені не задавальняюць патрабаванням совецкай школы, удзяляючай так многа ўвагі фізічнаму выхаванню дзяцей. Звычайная абстаноўка нашых школьных двароў: аблезлыя сцены сараяў, памойныя ямы, у лепшым выпадку пустыр. Таму нярэдкі выпадкі, калі хлопчыкі цягнуцца на двор для таго, каб там „распаясацца, як на вуліцы", пакурыць, пахуліганіць; дзяўчаткі-ж, наадварот, часта адмаўляюцца карыстацца дваром, матывіруючы гэта тым, што там ім „няма праходу ад хлопцаў". Прывядзенне ў парадак школьных двароў павінна стаць адной з важнейшых гаспадарчых задач школы. Ці-ж не можна высокія, аблезлыя, глухія сцены сараяў, якія акружаюць двор 4-ай школы, ператварыць у своеасаблівыя „палотны"?

Ці-ж нельга на гэтых «палотнах» напісаць рад фізкультурных лозунгаў, рад дыяграм, ілюструючых жыццё школы і т. д.? Вядома можна. Таксама магчыма і азеляненне двароў кустамі, клумбамі. Для таго, каб цветнікі не памяншалі плошчы двара, іх належыць разбіваць па кутках, якіх дарэчы ў дварэ 4-й шлолы вельмі многа. Кусты, клумбы, цветнікі, лаўкі каля сцен, рад фізкультурных снарадаў і прыбораў для гульняў, чыстая, удобная, абнесеная кустамі прыбіральня, прыдадуць двару тое неабходнае ўпарадкаванне, якога чакае і ўправе патрабаваць наш школьнік ад наступаючага вучэбнага года.

У кароткім артыкуле немагчыма хоць-бы бегла ахапіць і многа другіх пытанняў, звязаных з падрыхтоўкай к прадстаячаму вучэбнаму году. Правільная расстаноўка парт, правільнае размяшчэнне дзяцей на партах, культурная арганізацыя і абарудванне школьнай сталовай, меры па барацьбе з пылам, размер і правільнае размяшчэнне класных дошак, добры мел, бакі для гатаванай вады, умывальнікі і палаценцы для школьнікаў, утульнае памяшканне ўля адпачынку настаўнікаў, удобныя і мэтазгодна расстаўленыя вешалкі, нішто не павінна выйсці з-пад увагі, усё гэта павінна ўвайсці ў круг клопатаў дырэктароў, настаўнікаў, бацькоў, профзаюзаў, усёй нашай грамадскасці.

Трэба памятаць, што падрыхтоўка да наступаючага вучэбнага года з'яўляецца адной з важнейшых палітычных задач.